**СОНЦА:**

Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 8.24, 16.08, 7.44;
Віцебск — 8.21, 15.51, 7.30;
Магілёў — 8.14, 15.57, 7.43;
Гомель — 8.03, 11.07, 7.59;
Гродна — 8.38, 16.24, 7.46;
Брэст — 8.31, 16.33, 8.02.

**ІМЯНІНЫ:**

Сцяпана, Фёдара, Марцаліна, Марцыяны.



# ЗВЯЗДА

9 СТУДЗЕНЯ 1992 г.
чацвер. № 4 (21782)



● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 40 кап.

## РОЗГАЛАС

### ГЕРМАНІЯ ПРЫЗНАЕ БЕЛАРУСЬ

**На імя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіча паступіла тэлеграма ад Федэральнага Прэзідэнта Германіі Рыхарда фон Вайцзэккера. У ёй Германія афіцыйна прызнае Рэспубліку Беларусь як незалежную дзяржаву. «Нямецкі народ віншуе Рэспубліку Беларусь у якасці новага члена садружнасці незалежных дзяржаў свету», — гаворыцца ў тэлеграме.**

**У пасланні выказваецца гатоўнасць устанавіць дыпламатычныя адносіны з Беларуссю і правесці адпаведныя перагаворы.**

**Прэзідэнт запэўнівае, што германскі ўрад будзе імкнуцца да таго, каб адносіны паміж дзвюма дзяржавамі развіваліся ў духу дружбы і супрацоўніцтва. Прэзідэнт ад імя нямецкага народа і ад сябе асабіста пажадаў народу Беларусі шчасця і поспехаў.**

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

### ДАНТЫСТЫ НА КОЛАХ

**МАЛАРЫТА (Ю. Фёдарава).** У раёне — навінка ў медыцынскім абслугоўванні насельніцтва. Тут абсталявана перасовачная стаматалагічная лабараторыя. Яна будзе па графіку наведваць вёскі, у першую чаргу аддаленыя.

## «БЕЛАРУСІ ВЕЛІЗАРНАЯ АРМІЯ НЕ ПАТРЭБНА»

**Учора адбылася сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча з афіцэрамі ўпраўлення Беларускай ваеннай акругі і Мінскага гарнізона.**

Калі меркаваць па тым факце, што прадстаўнікам прэсы аб маючай адбыцца сустрэчы паведамілі ў святочныя дні па хатніх тэлефонах, то можна зрабіць вывад аб экстраннасці гэтай размовы. Яна даўно наспела, але апошнія падзеі з Чарнаморскім флотам, відаць, максімальна наблізілі дзень сустрэчы. Далей адкладваць было ўжо нельга. Салдаты, афіцэры, прапаршчыкі, члены іх сем'яў павінны былі атрымаць інфармацыю, пачуць адказы непасрэдна кіраўніка рэспублікі на пытанні, як ім далей працаваць і жыць.

Пачалася сустрэча, на жаль, з даволі грубага выпаду маёра Галаўні. Магчыма, у іншай абстаноўцы на гэтым эпізодзе не варта было б спыняцца. Чагочаго, а грубіянаў і крыкуноў у нас аж занадта. І палітыкам даводзіцца сёння чуць у свой адрас не толькі кампліменты. Але маёр Галаўня, здаецца, выказаў думкі, нейкай часткі ваеннаслужачых Беларускай акругі. Бо пасля яго кароткага і эмацыянальнага, я сказаў бы, на мяжы істэрыкі выступлення пачуліся апладысменты. Праўда, нямоцныя і непрацяглыя, але ўсё ж...

Дык вось. Маёр катэгарычна запатрабаваў растлумачыць, хто даў права Шушкевічу пазбаўляць людзей Радзімы і СССР, грэбаваць вынікамі рэферэндуму. Чаму ён, Шушкевіч, уступіў у эмову са здраднікамі тыпу Ельцына і Краўчука, у выніку чаго стварылася Садружнасць Незалежных Дзяржаў. На думку маёра, гэта не што іншае, як снежаньскі путч. І ці вядома Шушкевічу, які лёс заўсёды чакаў здраднікаў на Русі?

— А мы з вамі не на Русі, а ў Беларусі, перш за ўсё,—сказаў у час выступлення і адказаў на пытанні С. Шушкевіч. Выказванні маёра ён ацаніў як салдафонскую пазіцыю, прымітыўны падыход і параіў яму часцей і глыбей думаць над рэаліямі нашага жыцця.

Звычайна стрыманы і разважлівы Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі быў узрушаны несправядлівым і бяссэнсавым наскокам, катэгарычнасцю прыхільніка непарушнасці былой вялікай імперыі. Таму гаварыў рэзка, прама і, як сам прызнаўся, крыху сумбурна. Але ад вострых пытанняў не ўхіляўся. Іх жа набралася шмат. Хоць яны потым ставіліся ў карэктнай форме, але ўсе патрабавалі канкрэтнасці.

Ці ўсведамляе С. Шушкевіч, што зараз ідзе барацьба за армію? Камандзіра сёння вымушаюць актывізаваць эканамічную дзейнасць, а навошта? Ці яго гэта задача думаць пра харчаванне, абмундзіраванне салдат? Ці гатова рэспубліка ўзяць на сябе ўтрыманне войск БВА, ці хопіць у яе сродкаў на гэта? Ужо зараз узнікаюць цяжкасці з прадуктамі, гаручазмазачнымі матэрыяламі, запчасткамі, многім іншым, без чаго не можа нармальна існаваць армія.

Хвалявалі афіцэраў праблемы сацыяльнай абароненасці, далейшы лёс пасля звальнення, пенсіённае забеспячэнне, прадастаўленне жылля і многае іншае. Прамоўцы папярэджвалі не браць за ўзор адносіны Прыбалтыкі і Украіны да Узброеных Сіл, што небяспечна і можа нават прывесці да грамадзянскай вайны. Афіцэры раілі, а ў зале прысутнічалі ў асноўным генералы і палкоўнікі, хутчэй распрацаваць праграму па ваеннай рэформе, прыняць закон аб абароне Беларусі, дакладна вызначыць статус афіцэра, салдата ў рэспубліцы. І ўвогуле, выказвалі гатоўнасць развіваць супрацоўніцтва арміі з кіраўніцтвам і насельніцтвам рэспублікі. Як паведамілі ў час сустрэчы, БВА перадала ўжо мясцовым Саветам каля 20 тысяч гектараў зямлі, якая знаходзілася ў яе карыстанні.

Больш за гадзіну выступаў С Шушкевіч. Не бяруся ацэньваць, наколькі поўна і змястоўна задаволіў ён аўдыторыю, але, думаецца, за гэты час Старшыня здолеў данесці да прысутных сваю пазіцыю наконт будучага арміі ў Беларусі. Прывяду галоўныя моманты яго выступлення.

— Давайце гаварыць адкрытым тэкстам, — сказаў С. Шушкевіч. — Усе прамоўцы тут заклікалі захаваць армію, а для чаго? Захаваць яе ў былым выглядзе немагчыма. Акрамя таго, Беларусь імкнецца стаць бяз'ядзернай зонай і нейтральнай дзяржавай. Зразумейце, Рэспубліцы Беларусь такая велізарная армія не патрэбна. Але гэта не значыць, што Вярхоўны Савет і ўрад рэспублікі супраць арміі. Значная, калі не большая частка войск, якія дыслацыруюцца ў Беларусі, ахоўваюць бяспеку Расіі. Таму трэба ўсе пытанні забеспячэння Узброеных Сіл на нашай тэрыторыі вырашаць на аснове дагавора з Расіяй, на парытэтных асновах. І калі гавораць, што грошамі БВА забяспечвае Расія—няпраўда. Беларусь робіць гэта. Нам неабходна дзяліць клопаты па ўтрыманню арміі з Расіяй, падкрэсліў яшчэ раз С. Шушкевіч.

Пра прысягу. Як адзначыў С. Шушкевіч, тэкст прысягі аб вернасці Расіі, якую нядаўна прапанаваў маршал Шапашнікаў, нам не падыходзіць. Трэба знайсці прымальны тэкст прысягі, зацвердзіць яго на Вярхоўным Савеце, але ні ў якім разе не спяшацца ў гэтай справе. А пакуль што няхай дзейнічае старая прысяга.

Матэрыяльнае забеспячэнне арміі. Яно, на думку Старшыні, павінна быць дастатковым і рэгулярным.

Але вы падзяляеце той цяжар, што і ўвесь наш народ. З паляпшэннем эканамічнага стану рэспублікі будзе мяняцца матэрыяльнае становішча арміі. Што датычыць афіцэраў-пенсіянераў, то ў Беларусі пра іх будуць клапаціцца, як пра сваіх. Ніякіх «чужых» пенсіянераў у нас не будзе,—запэўніў С. Шушкевіч.

Сёння чуюцца прапановы аб'яднаць Беларускую ваенную акругу і нядаўна створанае Міністэрства па справах абароны Беларусі. Старшыня супраць гэтага. На яго погляд, у кожнага ведамства павінны быць свае мэты і задачы. Ён выказаў надзею, што адносіны паміж БВА і кіраўніцтвам рэспублікі, насельніцтвам будуць добрыя і дастойныя.

У канцы сустрэчы С. Шушкевіч атрымаў запіску ад выбаршчыкаў з Масюкоўшчыны: «Мы вам верым».

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# Адкрыты ліст

**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. ШУШКЕВІЧУ, Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Ф. КЕБІЧУ**

Калі ў доме пажар, у першую чаргу ратуюць нямоглых старых, слабых жанчын і дзяцей. І толькі пасля гэтага выносяць з агню рэчы...

У нашым няўтульным і бяздушным доме, падобна, усё перавернута з ног на галаву. Як і ўсё жыватворнае, культура, пазбаўленая надзейнай апоры і падтрымкі, не здольная абараніць сябе і выжыць. Ёй няма чаго, акрамя сваёй душы, проціпаставіць жорсткаму рыначнаму свету.

Горка пра гэта гаварыць, але прайшоўшая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дзе прымаўся Закон аб падатках, праігнаравала просьбу творчых саюзаў Беларусі аб вызваленні іх ад усіх падаткаў, за выключэннем чарнобыльскага. І наўрад ці гэтае рашэнне парламентарыяў прадыктавана клопатам аб дзяржаўнай казне. Бо размова ідзе ўсяго пра нейкія пяць мільёнаў.

Творчыя саюзы не атрымліваюць ад дзяржавы датацый. Таму мы вымушаны весці эканамічную дзейнасць і самастойна зарабляць сродкі, якія накіроўваюцца галоўным чынам на забеспячэнне і без таго сціплых праграм у падтрымку нацыянальнай культуры. Па сутнасці, мы бяром на сябе функцыі дзяржавы і просім толькі аб адным: даць магчымасць і надалей без перашкод весці гэтую работу.

Нашы парламентарыі любяць спасылацца на вопыт высокаразвітых замежных дзяржаў. Агульнавядома, што ва ўсім цывілізаваным свеце культура, мастацтва заўсёды карысталіся і карыстаюцца дзяржаўнай падтрымкай. Падрыхтаваны прапановы і ва ўрадзе Расіі аб вызваленні ад падаткаў творчых саюзаў, аддзяленняў, прадпрыемстваў і арганізацый, якія ўваходзяць у іх склад; прадуманы меры выратавання культуры і талентаў ад камерцыялізацыі.

З трывогай і болем за лёс нацыянальнай культуры мы звярталіся непасрэдна да парламентарыяў, у Вярхоўны Савет і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, аднак не былі там пачуты. Глухое неразуменне і адкрытае ігнараванне нашых надзённых просьбаў і зваротаў мы разглядаем як мэтанакіраваную антыкультурную палітыку, якая прывядзе да самаліквідацыі творчых саюзаў — адзіных у сваім родзе арганізацый, здольных аказваць уплыў на творчыя працэсы, супрацьстаяць пранікненню ў нацыянальную культуру нізкапробных твораў.

Мы перакананы, што з ліквідацыяй творчых саюзаў нашу культуру захлісне хваля бездухоўнасці, агіднасці і пошласці. На чыім сумленні будзе гэта нічым незаменная страта? Хто панясе за гэта адказнасць?

**Кіраўнікі творчых саюзаў і Фонду культуры Рэспублікі Беларусь: В. ЗУЁНАК, Я. КАВАЛЕЎСКІ, А. ДЛАТОЎСКІ, Л. ЕКЕЛЬ, В. НІКІФАРАЎ, А. КРАСІНСКІ, І. ЛУЧАНОК, Г. БУРАЛКІН, М. ЯРОМЕНКА, М. ДРЫНЕЎСКІ, І. ЧЫГРЫНАЎ.**

## ДА ВЕДАМА НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Нечарговая восьмая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 9 студзеня 1992 года ў 10 гадзін раніцы ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.**

### НЕ ШАМАЦЕЛА, А БУЛЬКАЛА. ТОЛЬКІ ШТО?

На пагранпераходзе «Казловічы» мытняй затрымана незвычайная кантрабанда. Згодна з дакументамі, вялікі грузавік вёз для гандлёвай фірмы суседняй краіны грэцкія арэхі. Аднак мяшкі з арэхамі прыкрывалі дзесяткі скрынак з каньяком і гарэлкай.

Як потым высветлілася, і гэты груз з «сюрпрызам». Правераныя ў лабараторыі Брэсцкага лікёра-гарэлачнага завода моцныя напіткі адпавядалі дзяржстандарту у меншай меры, чым нават самагонка.

Цікава і іншае: што здарылася з грузам — невядома.

### ШОКАВАЯ ТЭРАПІЯ НА ПІНСКІ КАПЫЛ

-Так назвалі пастаянныя наведвальнікі калгаснага рынку рашэнне гарадскіх улад аб рэзкім павышэнні разавых збораў.

З грамадзян, якія маюць валюту, а працей кажучы — замежных, за продаж тавару з прылаўка бярэцца 200 рублёў. Яшчэ тыдзень назад гэтая сума не перавышала 30-ці.

Аднак шокавая тэрапія, відаць, толькі ў першыя хвіліны засмуціла замежных камерсантаў. Яны хутка прынялі контрмеры, узняўшы цэны за фірменныя джынсы, напрыклад, да 1000 рублёў...

### Забіць прэсу нельга. Яе можна толькі задушыць

Ці то свет перавярнуўся, ці то здарылася што з людзьмі, аднак можна засведчыць адно: вера ў слова пахіснулася, азлобленасць расце. А тым, хто хоча прапаведаваць праўду і ісціну і неяк падтрымаць паўшых духам, накідваюць пятлю на шыю. Скажам, калі ў пачатку мінулага года першы намеснік міністра сувязі і інфарматыкі рэспублікі У. Уласік накіраваў у выдавецтвы тарыфы на паслугі свайго ведамства на 1992 год, было зразумела, што з галоснасцю хоць і будзе цяжка, аднак некаторыя выданні, магчыма, выжывуць. Але... Нягледзячы на тое, што дагаворы на дастаўку газет ужо заключаны, а рэдакцыі чакаюць пералічэнняў на свае рахункі ад падпіскі, міністр сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь спадар І. Грыцук дасылае 4 студзеня новыя тарыфы на паслугі міністэрства чамусьці ў выдавецтва «Беларускі Дом друку», а не ў рэдакцыі. З 1 (?) студзеня яны значна ўзраслі. Дастаўка ўзрасла ў 5 разоў, распаўсюджванне па падпісцы ў 4,3, у розніцу — у 2 разы, паштовыя тарыфы ўзраслі ў 11,5 раза. Такі вось каляднны «падарунак» атрымалі не толькі журналісты, а і ўсе жыхары Беларусі. Бо бюджэты планавалі не толькі газеты, але і сем'і нашых чытачоў. Відаць, прыйшла пара, пакуль не позна, біць у званы, каб дайшло і да нашага шаноўнага парламента: народ пазбаўляюць проста духоўнай ежы. Практычна зроблены замах на пазбаўленне яго духоўнасці.

**Віктар ХУРСІК.**

### Грамадзян Балгарыі запрашаюць на выбары

**12 студзеня ў будынку генеральнага консульства Рэспублікі Балгарыя (Мінск, Бранявы завулак, дом № 5) будзе праходзіць галасаванне па выбарах прэзідэнта і віцэ-прэзідэнта Балгарыі. Усе балгарскія грамадзяне, якія працуюць, вучацца, жывуць у Рэспубліцы Беларусь, запрашаюцца прыняць удзел у галасаванні.**

**Аб жаданні ўдзельнічаць у выбарах балгарскія грамадзяне могуць заявіць асабіста, па тэлексу 25-21-84, тэлеграмай, пісьмом або па тэлефонах 27-55-00, 27-55-02. Для ўдзелу ў галасаванні трэба прад'явіць пашпарт.**

**Аб гэтым гаворыцца ў паведамленні, распаўсюджаным генеральным консульствам Рэспублікі Балгарыі ў Мінску.**

### Латвійская місія ў ААН

Пастаянны прадстаўнік Латвіі ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, дыпламат у рангу Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Айвар Бауманіс вызначыў тры найбольш важныя палітычныя задачы для латвійскай місіі ў ААН. Па-першае, дабіцца падтрымкі ААН у пытанні аб вывадзе войск з рэспублікі, па-другое, актыўна выкарыстоўваць магчымасці праграм ААН, якія прадугледжваюць навучанне спецыялістаў за кошт арганізацый. І па-трэцяе, вырашыць, у якой групе краін ААН Латвія мае намер быць прадстаўленай.

МЫ МЯРКУЕМ ТАК. А ВЫ?

## Даруй, цешча.., або Хто болей?

Пакуль што новыя цэны не з'явіліся перад намі поўнасцю, ва ўсім сваім відазмененым абліччы (відаць, па той простай прычыне, што трэба, каб быў і тавар да іх), але ўжо і цяпер можна меркаваць, што адзін з самых адчувальных удараў па спажыўцу нанясуць транспартнікі—на аўтобусных міжгародніх і прыгарадных перавозках. Як навукова-далікатна зазначаюць у Міністэрстве транспарту рэспублікі, у іх каэфіцыент павышэння складае 5,8 раза. Усяго. Бо, каб выйсці на патрэбны ўзровень рэнтабельнасці (у межах 30 працэнтаў), неабходна браць не менш як 6 разоў... Адным словам, толькі клопат аб нашым спажывецкім кашальку не дазволіў транспартнікам акругліцца...

Дарэчы, у міністэрстве настойліва прасілі напісаць, што не зыходзяць са сваіх групавых інтарэсаў, і новыя цэны поўнасцю эканамічна абгрунтаваныя, а не ўзяты са столі. Напрыклад, цана на паліва ўзнімаецца ажно ў 7 разоў—як гэтага не ўлічыць? А ўзяць цану новых машын! Трэба яшчэ павысіць усім у два разы зарплату, вызначыць датацыі на харчаванне... Новую, амаль у 6 разоў павялічаную цану нашага білета фарміруюць і розныя падаткі, якімі абклалі з усіх бакоў,—на прыбытак, на дабавачны кошт, на паліва, акцызны падатак...

Самы раз паспачуваць транспартнікам, але ці варта? Бо яны, як, дарэчы, і ўсе іншыя нашы звышманапалісты (а менавіта яны і толькі яны правяць баль), здаецца, адным махам сабраліся вырашыць усе свае праблемы за кошт спажыўца. Тыя ж транспартнікі самі падкрэсліваюць, што паўсюдна мае месца банальнае павышэнне цэн, якое робіцца пад эгідай рынку.

І нельга з гэтым не пагадзіцца. Так, рыначныя адносіны, пад маркай чаго ўсё і робіцца, прадугледжваюць свабоду цэнаўтварэння. Але ці магчыма такая свабода пры нашай звышманапалізаванай вытворчасці? У падобных умовах гэта свабода будзе, так сказаць, аднабаковай, скіраванай толькі ў бок таго ж павышэння. Падобная свабода пагражае далейшым спадам вытворчасці і закручваннем спіралі інфляцыі, бо можна ж атрымаць ранейшы даход з меншымі намаганнямі за кошт новай цаны. На жаль, пакуль што на нашым куртатым рынку не з'явілася галоўнай яго фігуры —прадпрымальніка. Дакладней—мноства прадпрымальнікаў, якія вымушаны былі б весці жорсткую барацьбу паміж сабой за месца пад сонцам, г.зн. за спажыўца, у тым ліку (і нават перш за ўсё) і за кошт зніжэння цэн.

На вялікі жаль, альтэрнатыўную эканоміку стварыць значна цяжэй, чым УВЕСЦІ СВАБОДНЫЯ ЦЭНЫ. Хоць бы такі факт: тыя ж транспартнікі спакойна, без усялякіх там хваляванняў і перажыванняў, прызнаюць: менш будуць ездзіць. Вось так. Характэрнае прызнанне.

Варта яшчэ раз падкрэсліць: ад свабодных цэн, калі мы хочам надыходу сапраўднага рынку, нікуды не дзецца, і, папэўна, даўно ўжо трэба было адпусціць іх, а не займацца пустымі размовамі, пад якія сёй-той да адказу забіваў свае шафы і кладоўкі. Але—разам з «адпусканнем» усяго рынку, а не адной, найбольш спакуслівай яго кампаненты; разам са стварэннем такіх умоў, каб рынак поўнасцю развіваўся выключна па сваіх законах. Ці хутка будуць наступныя, гэткія ж рашучыя крокі (каб не скончылася ўсё, як у красавіку)? Тая ж прыватызацыя, без якой і паўнапраўных уласнікаў не дачакаемся? З іх асабістай адказнасцю за вынікі сваёй дзейнасці, з пагрозай таго ж банкруцтва...

Аднак вернемся да транспартнікаў, якія падкрэсліваюць нерэнтабельнасць многіх пасажырскіх перавозак і, між іншым, зазначаюць: маўляў, бывае яшчэ і такое, калі сёй-той з вадзіцеляў аўтобусаў кладзе выручку сабе ў кішэнь, так што трэба ўзмацніць кантроль... Можна назваць тут і яшчэ нямала гэткага-такога. Але ці зменіцца ад гэтага што-небудзь? Сам падыход? Зрэшты, нагадаю: цэны на аўтобусныя паездкі адносяцца да так званых фіксаваных. Парадуемся? Ці лепш рушым на электрычку, на якую цана ўзрасла ўсяго ў два разы. Праўда, кажуць, чыгуначнікі спахапіліся і абіваюць усе магчымыя парогі, каб таксама— вышэй. Застаецца «альтэрнатыўнае» таксі?.. Эх, даруй, цешча... Здаецца, наш самы грамадскі, самы зручны і самы танны транспарт, сапраўды, хоча прывучыць нас да таго, каб хадзілі пешшу. А пешшу—няблізка...

**Іван БАРАНОЎСКІ,**
**аглядальнік «Звязды».**





## Наша жыццё ў незалежнай дзяржаве




Упэўнены, што людзі на здымках асабліва не думаюць пра наш суверэнітэт. Яны думаюць аб хлебе надзённым, у першую чаргу, як пражыць дзень сёняшні, атаварыць купоны, талоны, грошы, нарэшце, накарміць сябе, сваіх дзяцей, бацькоў... Пра незалежнасць неяк думаецца пасля ўсяго. Але ці трэба абвінавачваць у гэтым радавых падаткаплацельшчыкаў?

Наша незалежнасць толькі пачынаецца. Ад усталявання яе на самай урачыстай і каштоўнай паперы, у мармуры, на самай высокай трыбуне да напаўнення рэальным зместам — не адзін крок. І крочыць да гэтага павінны не толькі нашы высокія дзяржаўныя мужы. Пры самым моцным нацыянальным войску, з самай канверсуемай валютай, пры выдатным валоданні ўсімі (!) беларусамі сваёй мовай незалежнасць яшчэ не ўсталюецца.

На мой погляд, сапраўдны суверэнітэт — гэта і асэнсаванне апошнім бомжам свайго месца ў сваёй рэспубліцы, з'яўленне хоць нейкага пачуцця гонару за яе. Калі звацца «беларусам» будзе нават не проста ганарова, а вельмі прыемна.

Разумею, сёняшнія паліцы магазінаў не дабаўляюць аптымізму, але верыць цяпер проста неабходна. У тым ліку і ў сваю незалежнасць.

**Аляксандр КОКТЫШ.**
**Фота А. КЛЕШЧУКА.**



## СУМЕСНАЕ БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЕ КАМЮНІКЕ

**3—4 студзеня 1992 года ў Рэспубліцы Беларусь адбылася рабочая сустрэча Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіча і Старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі В. Ландсбергіса, у час якой былі абмеркаваны пытанні развіцця адносін паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь, а таксама іншыя пытанні, што маюць узаемную цікавасць.**

Было канстатавана, што пасля падпісання Дэкларацыі паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь аб прынцыпах добрасуседскіх адносін ад 24 кастрычніка 1991 года намечаныя далейшыя пагадненні зрабілі крок у заключную стадыю. Старшыні дамовіліся, што Пагадненне паміж Літоўскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь аб прынцыпах гандлёва - эканамічнага супрацоўніцтва і Дагавор аб асновах міждзяржаўных адносін будуць падпісаны ў самы бліжэйшы час.

У час сустрэчы С. Шушкевіч інфармаваў В. Ландсбергіса аб стварэнні СНД і намячаемых узаемаадносінах яе з іншымі дзяржавамі. В. Ландсбергіс выклаў пункт гледжання Літоўскай Рэспублікі па пытанню знешняй пазыкі былога СССР. Абодва кіраўнікі абмеркавалі будучую дымілітацыю граніцы паміж дзвюма дзяржавамі, работа над якой пачалася ўжо, адзначылі неабходнасць інтэнсіфікацыі гэтага працэсу, абмяняліся думкамі аб будучым рэжыме і абслугоўванні граніцы.

Старшыні былі адзінай думкі аб неабходнасці забяспечыць свабоднае развіццё культуры нацыянальных меншасцей, уключаючы бесперашкоднае стварэнне літоўскіх школ у Беларусі і беларускіх — у Літве. Пры гэтым абодва кіраўнікі пагадзіліся, што стварэнне тэрытарыяльных аўтаномій немагчымае, таму што гэта садзейнічала б узнікненню новых ачагоў напружання ў рэгіёне. Другой прычынай узнікнення міжнацыянальных напружанасцей могуць стаць спробы тлумачэння канфесіянальных асаблівасцей як нацыянальна - этнічных. Абодва старшыні асудзілі любы нацыяналізм, які вядзе да процістаяння народаў, выказаліся за найлепшае ўзаемаразуменне і ўсебаковае супрацоўніцтва на дзяржаўным узроўні.

Бакі прызналі мэтазгодным стварыць сумесныя групы экспертаў для разгляду асобных спецыфічных праблем, якія ўзнікаюць у працэсе пераходу да якасна новага этапа супрацоўніцтва дзвюх суверэнных дзяржаў.

Старшыні Вярхоўных Саветаў Літоўскай Рэспублікі і Рэспублікі Беларусь выказалі глыбокае задавальненне сустрэчай і вырашылі, што такія неафіцыяльныя міждзяржаўныя рабочыя візіты будуць прадоўжаны.

ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ПРАЦЫ І САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА, МІНІСТЭРСТВА ФІНАНСАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Пастанова ад 31 снежня 1991 г. г. Мінск*

# АБ РАЗМЕРАХ ДЗЯРЖАЎНЫХ СТЫПЕНДЫЙ НАВУЧЭНЦКАЙ МОЛАДЗІ ВА ЎМОВАХ ЛІБЕРАЛІЗАЦЫІ ЦЭН

Выконваючы пастанову Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 20 снежня 1991 года № 482, Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь **пастанаўляюць:**

Зацвердзіць і ўвесці з 1 студзеня 1992 года новыя размеры дзяржаўных стыпендый:

1. У вышэйшых навучальных установах:

паспяваючым студэнтам ў размеры 280 рублёў у месяц, у тым ліку маючым толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 320 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 360 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, знаходзіліся пад апекай (папячыцельствам) і дасягнулі 18-гадовага ўзросту да 1.03.91 года, якія не атрымліваюць штомесячных грашовых выплат на ўтрыманне апякаемых (згодна з пастановай Вярхоўнага Савета РБ ад 5.02.91 г.) і якія выхоўваліся ў сем'ях родных, не аформіўшых апякунства, а таксама дзецям ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку,— у размеры 370 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 410 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 450 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, апекуноў (папячыцеляў), якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, — у размеры 230 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 270 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 310 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў і знаходзяцца на выхаванні ў апякунскіх (прыёмных) сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу і якія атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых, стыпендыі выплачваюцца на агульных падставах;

студэнтам, якія знаходзяцца ў адпаведнасці з рашэннямі Ўрада на поўным дзяржаўным забеспячэнні, у размеры 115 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 155 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 195 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку воінаў-інтэрнацыяналістаў у размеры 345 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 385 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 425 рублёў у месяц, з іх тым, што знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна — 215, 255 і 295 рублёў у месяц;

студэнтам з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва або захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 425 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 465 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 505 рублёў у месяц. Указаным студэнтам, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна — 260, 300 і 340 рублёў у месяц;

студэнтам, Героям Савецкага Саюза і Героям Сацыялістычнай Працы, у размеры 485 рублёў у месяц, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 525 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 565 рублёў у месяц;

студэнтам, якія вучацца па спецыяльнасці 01.01 «Матэматыка» ў дзяржаўных універсітэтах, 01.02 «Прыкладная матэматыка», 01.03 «Механіка», 22.04 «Праграмнае забеспячэнне вылічальнай тэхнікі і аўтаматызаваных сістэм», у размеры 350 рублёў у месяц, незалежна ад курса навучання, у тым ліку студэнтам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 390 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 430 рублёў у месяц;

студэнтам за асаблівыя поспехі ў вывучэнні асобных дысцыплін і навукова-тэхнічнай творчасці можа ўстанаўлівацца персанальная стыпендыя Савета ВНУ ў размеры 350 рублёў у месяц;

навучэнцам падрыхтоўчых аддзяленняў у размеры 195 рублёў у месяц;

імянныя стыпендыі ўсіх відаў — 480 рублёў у месяц;

аспірантам вышэйшых навучальных устаноў стыпендыі выплачваюцца ў размеры службовых акладаў (ставак) спецыялістаў, якія яны атрымлівалі да паступлення ў аспірантуру; аспірантам, паступіўшым на вучобу непасрэдна пасля заканчэння навучальнай установы, стыпендыі выплачваюцца ў размеры службовых акладаў (ставак) адпаведных спецыялістаў без катэгорыі. Аспірантам, якія паступілі ў аспірантуру да 01.01.92 г., стыпендыя выплачваецца ў размеры службовых акладаў (ставак), устаноўленых з 01.01.92 г. на адпаведных пасадах;

дактарантам выплачваецца стыпендыя ў размеры службовага акладу, які яны атрымлівалі да паступлення ў дактарантуру. Асобам, якія паступілі ў дактарантуру да 01.01.92 г., размеры стыпендыі ўстанаўліваюцца на ўзроўні службовых акладаў, што ўводзяцца з 01.01.92 г. на тых пасадах, на якіх яны працавалі да паступлення ў дактарантуру.

2. Студэнтам, якія праходзяць ваенную падрыхтоўку ў вышэйшых навучальных установах па праграме афіцэраў запасу, устанаўліваецца надбаўка да стыпендыі ў наступных размерах:

— студэнтам, якія не прайшлі абавязковай ваеннай службы, — 20 рублёў у месяц;

— студэнтам, якія прайшлі абавязковую тэрміновую ваенную службу, — 30 рублёў у месяц.

3. У сярэдніх спецыяльных навучальных установах:

паспяваючым навучэнцам у размеры 245 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 275 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 305 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, знаходзіліся пад апекай (папячыцельствам) і дасягнулі 18-гадовага ўзросту да 1.03.91 г., і якія не атрымліваюць штомесячных грашовых выплат на ўтрыманне апякаемых (згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 5.02.91 г., і якія выхоўваюцца ў сем'ях родных, не аформіўшых апякунства, а таксама дзецям ваеннаслужачых, загінуўшых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, — у размеры 370 рублёў, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 410 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 450 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, апекуноў (папячыцеляў), якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, — у размеры 195 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 225 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 255 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў і знаходзяцца на выхаванні ў апякунскіх (прыёмных) сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу і якія атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых, стыпендыі выплачваюцца на агульных падставах;

навучэнцам, якія знаходзяцца ў адпаведнасці з рашэннямі Ўрада на поўным дзяржаўным забеспячэнні, у размеры 100 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 130 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 160 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку воінаў-інтэрнацыяналістаў у размеры 320 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 350 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 380 рублёў у месяц, з іх тым, што знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна — 185, 215, 245 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва або захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 425 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 465 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 505 рублёў у месяц. Указаным навучэнцам, якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна — 250, 280 і 310 рублёў у месяц;

навучэнцам, Героям Савецкага Саюза і Героям Сацыялістычнай Працы, у размеры 485 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 525 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 565 рублёў у месяц;

імянныя стыпендыі ўсіх відаў — 445 рублёў у месяц.

4. Глуханямым і сляпым студэнтам ВНУ і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў выплачваецца да ўстаноўленай стыпендыі надбаўка ў размеры 50 працэнтаў.

5. Дзяржаўныя прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы, якія заключылі індывідуальныя дагаворы, выплачваюць за кошт сваіх сродкаў паспяваючым студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, а таксама слухачам падрыхтоўчых аддзяленняў пры ВНУ стыпендыю, павышаную не менш, чым на 30 працэнтаў; пры стажы работы больш трох гадоў — не менш чым на 50 працэнтаў у параўнанні з размерамі дзяржаўных стыпендый, устаноўленых для адпаведных катэгорый навучэнцаў.

6. Выплачваць студэнтам вышэйшых і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, якія знаходзяцца ў акадэмічным водпуску па медыцынскіх паказаннях 50 працэнтаў дзеючых размераў стыпендый у месяц (без уліку павышэння за паспяховасць) на перыяд акадэмічнага водпуску за кошт сродкаў навучальнай установы (апрача студэнтаў, навучэнцаў да 18 гадоў, якія атрымліваюць дапамогу).

7. У прафесійна-тэхнічных навучальных установах:

паспяваючым навучэнцам усіх тыпаў прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў (акрамя тых, каго рыхтуюць для работы ў сельскагаспадарчай вытворчасці, водагаспадарчым будаўніцтве і лясной гаспадарцы) з тэрмінам навучання не больш 10 месяцаў у размеры 175 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 195 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 215 рублёў у месяц, а навучэнцам з ліку дзяцей загінуўшых ваеннаслужачых і асоб, прыраўнаваных да інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны I і II груп, у размеры 190 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 210 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 230 рублёў у месяц;

паспяваючым навучэнцам пры падрыхтоўцы іх для работы ў сельскагаспадарчай вытворчасці, водагаспадарчым будаўніцтве і лясной гаспадарцы па прафесіях механізатараў з ліку асоб, якія закончылі сярэднія агульнаадукацыйныя школы і прайшлі у іх навучанне аўтасправе, рабоце на трактарах, камбайнах і іншых сельскагаспадарчых машынах, а таксама з асоб, звольненых у запас з Узброеных Сіл і залічаных пры чарговым прыёме ў гэтыя вучылішчы непасрэдна пасля звальнення ў запас, кваліфікаваных рабочых з ліку асоб, якія закончылі сярэднія агульнаадукацыйныя школы і якія вывучылі ў іх асновы жывёлагадоўлі і сельскагаспадарчай тэхнікі, з тэрмінам навучання менш 10 месяцаў у размеры 400 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 420 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 440 рублёў у месяц;

паспяваючым навучэнцам усіх тыпаў прафесійна-тэхнічных навучальных устаноў з тэрмінам навучання не менш 10 месяцаў, якія ў адпаведнасці з рашэннямі ўрада забяспечваюцца абмундзіраваннем і харчаваннем, у размеры 85 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 105 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 125 рублёў у месяц; навучэнцам з ліку сямейных у размеры — 110 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 130 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 150 рублёў у месяц; навучэнцам з ліку дзяцей загінуўшых ваеннаслужачых і асоб, прыраўнаваных да інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны I і II груп, у размеры 130 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 150 рублёў, толькі выдатныя ацэнкі — 170 рублёў у месяц; навучэнцам з ліку сямейных — у размеры 150 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 170 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 190 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў і знаходзяцца на выхаванні ў апякунскіх (прыёмных) сем'ях і дзіцячых дамах сямейнага тыпу і якія атрымліваюць штомесячныя грашовыя выплаты на ўтрыманне апякаемых, выплачваецца стыпендыя на агульных падставах;

навучэнцам з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, апекуноў (папячыцеляў), якія знаходзяцца на дзяржаўным забеспячэнні, у размеры 195 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,—225 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 255 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку дзяцей ваеннаслужачых, якія загінулі пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, — у размеры 370 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі, — 410 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 450 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку воінаў-інтэрнацыяналістаў у размеры 320 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 350 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 380 рублёў у месяц, з іх тым, хто знаходзіцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна — 185, 215 і 245 рублёў у месяц;

навучэнцам з ліку былых ваеннаслужачых, якія сталі інвалідамі ў выніку ранення, кантузіі, калецтва ці захворвання, атрыманых пры выкананні інтэрнацыянальнага абавязку, у размеры 370 рублёў у месяц, у тым ліку навучэнцам, якія маюць толькі добрыя, а таксама толькі добрыя і выдатныя ацэнкі,— 390 рублёў, а толькі выдатныя ацэнкі — 410 рублёў у месяц, з іх тым, хто знаходзіцца на дзяржаўным забеспячэнні, адпаведна — 250, 280 і 310 рублёў у месяц;

імянныя стыпендыі ўсіх відаў — 225 рублёў у месяц.

8. Стыпендыі грамадзянам замежных дзяржаў і дзяржаў СНД, якія навучаюцца ці праходзяць навукова-педагагічную стажыроўку ў вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і прафесійна-тэхнічных навучальных установах і навукова-даследчых установах і атрымліваюць стыпендыю за кошт бюджэту рэспублікі, выплачваюцца ў размерах, устаноўленых для студэнтаў і навучэнцаў Рэспублікі Беларусь.

Размеры стыпендый замежным грамадзянам, якія паступілі на навучанне пасля 1 верасня 1991 года, рэгулююцца дзяржаўнымі пагадненнямі.

9. Рэкамендаваць грамадскім арганізацыям, якія выплачваюць за кошт уласных сродкаў імянныя стыпендыі, пераглядзець іх размеры.

10. Прызнаць страціўшай сілу пастанову Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь ад 7 ліпеня 1991 года № 5.

**Старшыня Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь Г. П. БАДЗЕЙ.**

**Міністр фінансаў Рэспублікі Беларусь С. П. ЯНЧУК.**

## Сертыфікат— гэта пропуск на рынак

**«Будучае сусветнага рынку нельга больш уявіць без сертыфікатаў на сістэмы якасці. Той, хто іх умела выкарыстоўвае, атрымлівае перавагу ў канкурэнтнай барацьбе» — так лічаць прадстаўнікі Еўрапейскага супольніцтва. Заходняму пакупніку, які мае вялікі выбар, патрэбны пэўныя гарантыі. Ну, а як з выдачай сертыфікатаў у нас у рэспубліцы?**

Гэтай справай займаецца Беларускі нацыянальны цэнтр стандартызацыі і метралогіі, які праводзіць і акрэдытацыю выпрабавальных цэнтраў, і атэстацыю вытворчасці, і сертыфікацыю прадукцыі, сістэм якасці. Ён гатовы разгледзець заяўкі любых прадпрыемстваў.

Сертыфікацыя ажыццяўляецца ў поўнай адпаведнасці з прызнанымі на міжнародным узроўні методыкамі, перш за ўсё методыкамі, якія выкарыстоўваюцца Германскім таварыствам па сертыфікацыі. Пры гэтым цэнтр гарантуе канфідэнцыяльнасць інфармацыі, якую прадастаўляюць прадпрыемствы ў мэтах сертыфікацыі. Ён абараняе ў роўнай ступені інтарэсы вытворцаў і спажыўцоў прадукцыі. Сертыфікат, выдадзены цэнтрам стандартызацыі і метралогіі на падставе ацэнкі аўдытараў-рэвізораў, якія, дарэчы, атэставаны Германскім таварыствам па якасці, — залог таго, што прадпрыемства будзе паспяхова працаваць на агульнаеўрапейскім рынку.

Пра ўсё гэта даводзіцца гаварыць па прычыне таго, што не ўсе яшчэ разумеюць неабходнасць сертыфікацыі. А, між іншым, на міжнародны рынак імкнуцца трапіць многія. Вядома, наш унутраны рынак, на якім амаль усё ідзе з малатка, адвычыў клапаціцца аб якасці, тым больш, не думаюць пра сертыфікацыю. Але ж набліжаюцца новыя ўмовы, у якіх ужо хутка будзем працаваць, узрасце канкурэнцыя... Увогуле, дазволю сабе такое параўнанне: сертыфікат на якасць — гэта своеасаблівы пропуск у рынак. Ці не лепш паклапаціцца аб такім пропуску загадзя?

**М. КУСАКІН,**
**намеснік генеральнага дырэктара «Белстандарта».**

## Дарога да Храма ці да комплексу?

**Сёння няма чалавека, абыякавага да лёсу Кафедральнага ў імя Хрыста Збавіцеля сабора ў Маскве (Спаскага сабора). Увага да яго робіцца больш пільнай, калі даведваешся, што гэты вялікі помнік дойлідства быў цесна звязаны з родным краем, Беларуссю. І не толькі таму, што ў 15 мільёнаў рублёў, якія пайшлі на будаўніцтва храма, сваю долю ахвяравалі і беларусы. Ніці вялікіх падзей 1812 года звязалі Беларусь з Кафедральным саборам. Звернемся да гісторыі яго будаўніцтва.**

Шмат могуць расказаць архіўныя дакументы.

Першая закладка гэтага каласальнага помніка — музея Айчыннай вайны 1812 года адбылася 12 кастрычніка 1817 года. Дата ўрачыстасці была выбрана невыпадкова: менавіта ў гэты дзень імператар Напалеон са сваім войскам уцёк з Масквы. Месцам закладкі храма паслужылі Вараб'ёвы горы, а праект падрыхтаваў аўтарытэтны рускі акадэмік — мастак А. Вітберг.

Разгарнуліся велізарныя будаўнічыя работы, але раптоўная смерць Аляксандра I спыніла справу. Прыдворныя зласліўцы адрэкамендавалі гэтага сумленнага і смелага вучонага новаму імператару як нездольнага весці справу. І акрамя таго сцвярджалі, быццам Вараб'ёвы горы не прыдатныя для будаўніцтва помніка.

У 1827 годзе пачаўся зневажальны судовы працэс над Вітбергам за страту казны ў 580.000 рублёў, пасля чаго вучоны быў сасланы ў Сібір, а будаўніцтва храма па яго праекту спынілася назаўсёды.

Новы праект Кафедральнага сабора па ўказанню Мікалая I быў падрыхтаваны ў старажытным рускім стылі па ўзору грэка-візантыйскіх храмаў і зацверджаны імператарам 10 красавіка 1832 года. Аўтарам яго быў славуты ў той час рускі архітэктар К. Тон. Месца для размяшчэння храма выбраў сам Мікалай I на беразе Масквы-ракі. Урачыстая закладка храма па новаму праекту адбылася 10 верасня 1839 года.

Храм будаваўся 15 гадоў, яшчэ 30 гадоў працягвалася яго ўнутранае афармленне, і 26 мая 1883 года (праз 45 гадоў пасля закладкі) адбылося ўрачыстае асвячэнне храма Хрыста Збавіцеля.

Храм быў увянчаны 5 купаламі і меў 14 званоў, вышыню 97 метраў. Адлегласць ад уваходных дзвярэй да царскіх варот складала 71,1 метра. Унутры храма свабодна змяшчалася б званіца царквы Івана Вялікага. У час набажэнства тут маглі знаходзіцца 7.200 чалавек.

Храм асвятляўся ўдзень васьмю вялізнымі вокнамі, а ўвечары — мноствам бронзавых залочаных люстраў. На яго сценах было 177 белых мармуровых пліт вышынёй у тры аршыны (2,1 м) з усімі пісьмовымі актамі, што належалі да падзей 1812—1814 гадоў.

Так, на плітах заходняга боку храма, дзе ў храналагічным парадку апісана 71 бітва ў граніцах Расійскай Імперыі, упамінаюцца 33 бітвы на тэрыторыі былых паветаў Беларусі: на Беразіне, пад Салтанаўкай, Койданавам, Ваўкавыскам, Кобрынам, Гарадзечна. Памяць пра гэтыя падзеі ўвекавечвалася не толькі ў Маскве. У архівах мне ўдалося знайсці рэдкую фатаграфію цяпер неіснуючага помніка Напалеону ля в. Студзёнка (месца пераправы цераз Беразіну), а таксама праект помніка героям вайны 1812 года ў Ваўкавыску.

Адна святыня, звязаная з гэтымі падзеямі, выратавана ад канчатковага знішчэння. Высакароднымі людзьмі адноўлены праваслаўны храм у вёсцы Гарадзечна Пружанскага раёна, пабудаваны ў 1825 годзе на полі бітвы 3-й рускай арміі з аўстра-саксонскімі карпусамі Напалеона.

Летась, якраз да Пакроваў адноўлены Свята-Пакроўскі храм сабраў пад свае прыгожыя купалы тысячы людзей: маладых і пажылых, дзядоў і бабуль, якія, здаецца, адагналі ад сябе хваробы і смерць, каб прыйсці да адноўленай святыні і пакланіцца ёй.

Цёплыя пачуцці ў душах людзей выклікалі віншаванні, прысланыя ў дзень адкрыцця гістарычнага храма Федэральным міністрам замежных спраў Аўстрыі Алоізам Мокам, супрацоўнікам Міністэрства замежных спраў Германіі Марыяй Кайперт, нашчадкам аўстрыйскага фельдмаршала Шварцэнберга, яго прапраўнукам князем Карлам Шварцэнбергам з Прагі.

У сувязі з сёлетнім 180-годдзем Гарадзечанскай бітвы пачынаюцца работы па аднаўленню яшчэ аднаго разбуранага гістарычнага помніка — капліцы ў гонар загінуўшых. Праект аднаўлення капліцы, як і самога храма, падрыхтаваны брэсцкім архітэктарам Г. Будзько.

Пачалі паступаць грашовыя ахвяраванні на спецрахунак па аднаўленню святыні. Нядаўна калектыў Брэсцкага панчошнага камбіната пералічыў 10 тысяч рублёў, за што мясцовыя жыхары прасілі выказаць праз газету падзяку.

Праектам прадугледжана змясціць на помніку-капліцы ў ліку 5 пліт з апісаннем Гарадзечанскай бітвы белую мармуровую пліту «Бітва пры Гарадзечна», аналагічную той, што знаходзілася некалі ў храме Хрыста Збавіцеля.

**А тым часам абласнымі і раённымі ўладамі і ведамствамі запланавана будаўніцтва ў лясным масіве на былым полі бітвы... буйнога жывёлагадоўчага комплексу і правядзенне грандыёзных меліярацыйных работ. Пад магутнымі каўшамі экскаватараў і лёзамі бульдозераў ужо загінулі гектары векавога і маладога лесу — будуецца «курортны» комплекс для бычкоў. Няўжо так цесна стала ў Брэсцкай вобласці, што няма дзе размяшчаць жывёлагадоўчыя комплексы, акрамя як на палях вялікіх гістарычных бітваў!**

Яшчэ ў мінулым годзе я звярнуўся да кіраўнікоў нашай вобласці В. Бурскага і А. Зеляноўскага з запіскай аб немэтазгоднасці размяшчэння пад Гарадзечна свінагадоўчага ці якога іншага комплексу, таму што менавіта тут разгортваецца стварэнне цэлага шэрагу гістарычных помнікаў, адкрываецца турыстычны маршрут па месцах бітваў Айчыннай вайны 1812 года.

Але заключэнне абласной камісіі было цвёрдым і бескампрамісным: «Іншай пляцоўкі па санітарна - эпідэміялагічных і экалагічных патрабаваннях на тэрыторыі калгаса для будаўніцтва комплексу няма...» Падумаць толькі!

Комплексы пабудаваць няцяжка, але як вярнуць у гэты край душу? Няўжо незразумела, што душа тут адабрана ў селяніна разам з яго зямлёй?

Заканчваючы расказ пра лёс храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве, падкрэслю адну важную дэталь.

Свяшчэнны Сінод Рускай праваслаўнай царквы 179 гадоў назад аб'явіў пра штогадовае святкаванне Каляд як дня збавення рускага народа ад французскага нашэсця. У гэты знамянальны дзень усе званы праваслаўных цэркваў, сабораў і манастыроў ад Брэста да Курыл сваім велічным звонам нагадваюць людзям, што памяць пра слаўных сыноў Айчыны вечная і святая.

Званы ж Спаскага сабора змоўклі назаўсёды. Не прастаяўшы і паўвеку, Кафедральны ў імя Хрыста Збавіцеля сабор воляю Сталіна і загадам Кагановіча 5 снежня 1931 года быў узарваны. Сэрцы мільёнаў людзей здрыгануліся ад гэтага жудаснага злачынства. Бязлітасна знішчыўшы шэдэўр сусветнага дойлідства і мастацтва, тагачасныя кіраўнікі з нябачаным цынізмам загадалі аддаць белыя мармуровыя пліты з імёнамі загінуўшых сыноў Айчыны на абліцоўку сцен Маскоўскага метрапалітэна.

Сёння іншы настрой сярод сумленных і высакародных людзей. Ужо распачаўся патрыятычны рух па адраджэнню храма Хрыста Збавіцеля. Я ўсёй душой падтрымліваю гэтую святую справу.

Прашу частку ганарару за артыкул перадаць у фонд будаўніцтва новага храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве, другую частку на спецрахунак 000701/440 у Пружанскім аграпрамбанку на аднаўленне помніка-капліцы «Доблесным продкам, загінуўшым у бітве пад Гарадзечна 1812 года 31 ліпеня».

ДѢЛО ПРИ КОБРИНЕ
15 іюля 1812г.

Командовавшіе войсками:
ген. отъ кав. Тормасовъ и
ген-адьют. гр. Ламбертъ

Участвовавшіе войска:
13-й егерскій полкъ,
Стародубскій, Тверской
драгунскіе полки и
Александрійскій гус. полкъ

Выбыло изъ строя
воинскихъ чиновъ- 362

Отличились: генераль-адьют.
графъ Ламбертъ
генераль- маиоры
Чаплицъ,Бердяевъ,Мелиссино,
князь Щербатовъ- 1-й (Алексей);
полковники:
Ренни, Ольдекопъ
Награждѣны: Орденомъсвятого
Георгія 2-и степѣни
ген. отъ кав. Тормасовъ
Орд. св. Георгія
4-и степѣни маиоръ Избошъ

ІЛЮСТРАЦЫІ: 1. Храм Хрыста Збавіцеля ў Маскве. 2. Мармуровая пліта ў гэтым храме з апісаннем бітвы пад Кобрынам. 3. Гарадзечанскі Свята-Пакроўскі храм у дзень адкрыцця і асвячэння.

**Леанід НЕСЦЯРЧУК,**
**член прэзідыума абласнога Фонду культуры і камітэта абароны міру.**
**г. Брэст.**

ПРА НАБАЛЕЛАЕ

## «...Я НЕ ЧУЮ»

**У перапоўненым аўтобусе дзяўчына спрабавала прабіцца да выхаду. Ні слова не гаворачы. На яе гыркалі, а яна маўчала, не адказвала. Памятаецца, яшчэ думка з'явілася: «Вось нервы, — нібы стальныя!» На прыступках стаяла тоўстая кабеціна і, калі адчыніліся дзверы, — нават не варухнулася. У дзяўчыны, якая праціскалася паўз яе, з горла вырваўся сцяты гук. Так — нямая, глухая... А баба раз'юшана лаялася.**

І ўзнікла пытанне: а як ім, такім, спытаць у пасажыра, што стаіць наперадзе: «Вы выходзіце на наступным?», ці звярнуцца да чаргі: «Я адыду на пару хвілін...»? Такія простыя рэчы, аб якіх нават не задумваешся. А для іх гэтыя дробязі складваюцца ў вялікія праблемы.

Якую страшэнную псіхічную траўму ім наносяць кожны дзень!

З-за хваробы яны павінны трымацца сваіх. Сам-насам з тымі, хто чус і размаўляе, — нібы замежнік у далёкай і нядобразычлівай краіне, тым больш, калі няма імкнення зразумець субяседніка. Быць асобна ад астатніх — такая ім выпала доля. Такая доля і ў глухіх дзяцей. Вымушаны займацца ў сваім гурце, у «сваёй» школе. Адна з такіх — спецыяльна-адукацыйная школа-інтэрнат № 13 для слабачуючых і познааглухшых дзяцей г. Мінска. Звонку — такая ж, як і многія вакол. Ды не шумная, як звычайна: гоману дзіцячага там не чутно...

Вучацца ў ёй 252 хлопчыкі і дзяўчынкі. Яны альбо страцілі слых у дзяцінстве, альбо ўсё ж чуюць, але вельмі слаба. Таму для вучобы іх і падзяляюць на аддзяленні, у залежнасці ад стану слыху і мовы.

Вывучаюць тыя ж прадметы, што і ўсе школьнікі: матэматыку і літаратуру, фізіку і мову. Толькі выкладчыкі стараюцца не толькі гаварыць, а як мага часцей ілюстраваць выкладаемы матэрыял, карыстацца рознымі табліцамі, малюнкамі. Задача ж дзяцей — уважліва (так і хочацца сказаць «слухаць», але не) сачыць за губамі настаўніка, счытваць з іх словы, сказы... І такім чынам — разумець.

У спосабе адносін паміж сабой (мова жэстаў) яны, што называецца, самавучкі. Дзікунства — да мінулага года наогул не было дазволу выкладаць такі жыццёва важны прадмет. Цяпер жа яго вывучаюць з восьмага класа.

Дзеці, што наведваюць школу, — мінчане. 150 з іх могуць жыць у інтэрнаце. Астатнім даводзіцца прыязджаць сюды, на вуліцу Ваупшасава, з самых розных куткоў буйнога горада. Школа разлічана на 200 дзяцей. Сёння яна перапоўнена. А бацькі з дзецьмі прыходзяць і прыходзяць: школа такога профілю адна на мільённы горад. Праўда, адчынены спецыялізаваны клас пры СШ № 91 г. Мінска, але толькі для слабачуючых дзяцей першага аддзялення.

Школа-інтэрнат № 13 пабудавана ў 1963 годзе. І з таго часу ні разу не было капітальнага рамонту. А будынак мае вялікую патрэбу ў ім. Ацяпляльная сістэма, сістэма водазабеспячэння, каналізацыя, вонкавая інжынерная сетка — у аварыйным стане, спарахнелі аконныя рамы. Два гады назад школа за кошт таварыства глухіх рукамі кааператараў правяла «касметычны» рамонт. Але ці дастаткова яго?

Даўно наспела патрэба расшырыць школу, узвесці прыбудову да яе. У мінулым годзе адміністрацыя звярталася да Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па справах інвалідаў з просьбай аб капітальным рамонце школы-інтэрната з рэканструкцыяй вучэбнага і спальнага карпусоў і прыбудовы спальнага корпуса на 250 месцаў, сталярнай, слясарнай, швейнай майстэрняў, спартыўнай і актавай залаў, харчблока. Камісія накіравала ліст у гарвыканком, адкуль выразнага адказу так і не дачакаліся. Ідэю літаральна «зарэзалі», час яе пахавання — ліпень 1990 года. І прычынай таму тое, што давялося б спілаваць шмат дрэў, якімі абсаджана школа. Вядома, шкада дрэў. А ці не шкада дзяцей, якія вымушаны туліцца ў цесных пакоях?! Начальнікі ж кіруюцца прынцыпам «Не маё гарыць — не мне тушыць».

А цяжарных жанчын падсцерагаюць хваробы, выпадковасці, з-за якіх можа нарадзіцца глухое ці слабачуючае дзіця, нават і не па прычыне спадчыннасці. За апошнія 10 гадоў колькасць слабачуючых у горадзе Мінску ўвесь час узрастае. Паводле звестак Мінскай клінічнай аталарынгічнай бальніцы на дыспансерным уліку ў ёй больш як 1500 чалавек. Вядома, што толькі адна трэць прыроджаных дэфектаў слыху выяўляецца адразу пасля родаў. У большасці ж дзяцей пагаршэнне адбываецца праз некаторы час. Яшчэ адзін факт: 43 працэнты ўсіх хвароб, якія звязаны з парушэннем слыху ў дзяцей, выяўляецца на трэці дзень пасля нараджэння. Але не існуе абавязковых рэкамендацый урачам, як яны павінны правяраць слых у дзіцяці ў пасляродавы перыяд; прыборы ж, якія прызначаны для гэтай мэты, — вельмі дарагія. Таму ранняе вызначэнне дэфектаў слыху дзіцяці застаецца вашай справай, бацькі. Калі дзіця своечасова забяспечана слыхавым апаратам, ёсць шанц, што ў далейшым яно навучыцца нармальна размаўляць.

А вось як жыць глухім сярод глухіх?

**М. ЛЯБЕДЗІК, Л. ПРАЎЛОЦКАЯ,**
**студэнткі факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта.**

